# Віншуем каталікаў з Нараджэннем Хрыстовым!

№ 246 (1809)
Серада, 24 снежня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля».
Кошт свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою…*

**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

***У сувязі са святам наступны нумар «Народнай волі» выйдзе ў суботу, 27 снежня.***

### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — -7...-5, сонечна, уначы — -10...-8, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — -5...-3, сонечна, уначы — -11...-9, без ападкаў; у Гродне ўдзень — -6...-4, сонечна, уначы — -8...-6, без ападкаў; у Віцебску ўдзень — -7...-5, сонечна, уначы — -8...-6, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — -7...-5, сонечна, уначы — -12...-10, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — -9...-7, сонечна, уначы — -10...-8, без ападкаў.

*www.meteo.by*



**ТЕМА ДНЯ**

*В ноябре представители народной коалиции "5+" осуществили марш-бросок по регионам Беларуси, а в преддверии праздников совершили рабочие поездки в Вильнюс и Варшаву, где провели ряд встреч на высоком уровне. Об итогах визитов, и некоторых других аспектах международной деятельности наш корреспондент* **Федор КОЗУБОВСКИЙ** *беседует с* **Анатолием ЛЕБЕДЬКО.**

# «Пятерка» предлагает программу помощи для Беларуси

**— Вначале хотелось бы услышать Вашу оценку выборов в российскую Думу. Полагаю, тот факт, что проиграли СПС и "Яблоко", большого оптимизма у Вас не вызывает?**

— Проиграли не только СПС и "Яблоко", проиграли сразу три России — молодая, демократическая и проевропейская. Наше сожаление — это капля в море разочарования думающей интеллигенции России.

**— Во многих российских регионах находились наблюдатели от Объединенной гражданской партии. В чем сходство и разница в настроениях избирателя в России и Беларуси?**

— Мы и они находимся в противофазе. В России значительная часть населения жаждет сильной руки и кнута. Гарантированная миска щей, обеспеченный ночлег и подметание двора под присмотром надзирателя — этого для миллионов россиян оказалось достаточно, чтобы голосовать за популистов и национал-социалистов. В Беларуси происходит обратный процесс. Десять лет правления сильной руки с царскими полномочиями не сделали подавляющее большинство граждан Беларуси ни богатыми, ни счастливыми, ни свободными.

**— Скажите, Ваши поездки в Вильнюс и Варшаву — это реакция на итоги российских выборов?**

— В определенной степени российские выборы заставляют держать некоторую дистанцию и с тревогой наблюдать за дальнейшим развитием ситуации.

Вместе с тем мы искренне заинтересованы иметь дружественные, партнерские отношения со всеми соседями без исключения. А значит, открыты для диалога и консультаций со всеми. С другой стороны, как воспитанные люди мы не ломимся в закрытую дверь и не стремимся залезть через окно.

**— Кто вошел в состав делегации коалиции "5+"?**

— Станислав Шушкевич, Винцук Вечерка, Анатолий Лебедько, Сергей Калякин, Леонид Лемешонок, Владимир Парфенович.

**— Говорят, что по приезде в Варшаву вы поставили в известность о своем прибытии посла Латушко?**

— Станислав Шушкевич действительно разговаривал по телефону с белорусским послом и пригласил представителей посольства на нашу пресс-конференцию. У нас нет тайн от "Красного дома". Вопреки утверждениям официальной пропаганды мы не клевещем на белорусский народ и не призываем бомбить резиденцию белорусского правителя.

Правда, мы проводим четкую границу между Беларусью и верхушкой власти. Это не синонимы.

**— Обращает внимание, что ваши встречи как в Вильнюсе, так и в Варшаве проходили на высоком уровне. Этим подчеркивался повышенный интерес к Беларуси или признание коалиции "5+" как реального центра объединения?**

— И первое, и второе.

**— Кто были ваши собеседники в Варшаве?**

— Руководители десяти департаментов и отделов МИД Польши, министр иностранных дел В.Тимошевич, его заместитель А.Залуцкий, вице-маршалак сейма Д.Туск, заместитель руководителя Совета национальной безопасности Т.Булахович, статс-секретарь Совета министров Т.Ивиньский.

**— Ваши впечатления от встречи с руководителем внешнеполитического ведомства Польши?**

— Министр продемонстрировал глубокое знание обсуждаемых тем и откровенный интерес к Беларуси. Встреча продолжалась вдвое больше запланированного времени и носила предельно конкретный характер.

**— А если конкретнее…**

— Коалиция "5+" выступает за разработку и принятие Европейским Союзом программы помощи для Беларуси. Более того, наши эксперты готовят предложения, рекомендации к этой программе. Об этом мы и вели разговор с министром иностранных дел Польши Тимошевичем.

**— Но кто будет продвигать эту программу в Брюсселе? Европейскому Союзу сейчас не до Беларуси…**

— Суверенная, демократическая Беларусь отвечает стратегическим интересам Польши, Литвы. Большую заинтересованность к Беларуси проявляет Швеция.

Мы намерены использовать возможности этих государств для продвижения Беларуси к европейским стандартам и демократическим ценностям.

**— Поддержит ли подобные инициативы "Красный дом"?**

Это поддержат граждане Беларуси. Те, кто работает на белорусских предприятиях и хочет, чтобы их продукция находила сбыт на европейских рынках. Это поддержат студенты, ученые, ряд других категорий населения, для которых мы предлагаем ввести облегченный визовый режим. За это выскажутся жители 50-километровой приграничной с Евросоюзом зоны, которые, по нашему мнению, должны пересекать границу без виз. С нами будут солидарны десятки тысяч специалистов в разных сферах, которым мы предлагаем предоставить возможность стажировок в европейских странах.

**— Представим, что Брюссель пошел на реализацию подобной программы. Лукашенко не упустит случая воспользоваться ее плодами в своих интересах и что дальше?**

— Программа помощи — это лишь одно звено в цепи общей стратегии. Второе звено — это либерализация ситуации в Беларуси. И заметьте, оно также выгодно нашим гражданам. Думаю, никто не откажется от открытой дискуссии на белорусском телевидении, от возможности участвовать в честных выборах, а не белорусском лохотроне.

**— Скажите, есть ли смысл во встречах зарубежных политиков с белорусскими чиновниками, лишенными возможности принимать решения?**

— Думаю, да. К примеру, нынешний премьер-министр Сидорский во время своего посещения Польши узнал, что в этой стране есть частная собственность на землю.

В нынешних условиях, когда пачками закрываются общественные организации, когда идет целенаправленная зачистка информационного пространства, когда идет откровенное огосударствление профсоюзов, проведение официальных встреч на политическом уровне невозможно. Вместе с тем мы позитивно относимся к расширению контактов с чиновниками на региональном уровне, на уровне министерств, ведомств.

**— Коалиция "5+" инициирует проведение Венской технической конференции по Беларуси, на которой были бы выработаны критерии оценки предстоящих выборов в Палату представителей. У Вас есть надежды, что удастся что-то изменить?**

— Пока остается хотя бы один шанс из ста, что удастся изменить избирательное законодательство и практику его применения, мы будем за него бороться. Ведь его реализация дает семи миллионам избирателей право реального выбора. Не останется в накладе и власть. Есть возможность получить политически и юридически полноценное Национальное собрание.

И в Вильнюсе, и в Варшаве к данной инициативе был проявлен неподдельный интерес.

**— Вы обсуждали с заместителем председателя Парламентской Ассамблеи Совета Европы Ивиньским, депутатами польского и литовского сеймов возможность возвращения статуса специально приглашенного для Беларуси…**

— Наши позиции совпадают. Оснований для такого решения нет. Мы сделаем все необходимое, чтобы на январской сессии ПАСЕ было принято решение, адекватное нынешней ситуации.

**— Периодически международное сообщество возвращается к идее переговоров, "круглого стола" с участием власти и оппозиции. Есть некоторые признаки, позволяющие говорить, что эта идея вновь обретает живую плоть?**

— Не все идеи можно реализовывать, но нет идей, которые бы невозможно было обсуждать.

*Сёння — апошні дзень падпіскі на «Народную волю».*
*Не верым, што Вы можаце развітацца з намі.*
*Праўда патрэбна як нам, так і Вам.*

## *«Народная воля» — за праўду!*

*Няма магчымасці падпісацца на паўгоддзе — падпішыцеся на квартал, два месяцы, месяц.*
*Багатыя, дапамажыце бедным. Лепшы навагодні падарунак — падпіска на адзіную ў краіне штодзённую незалежную газету!*

**ПУЛЬС**

## І тое добра…

З 20 снежня на 10 працэнтаў зніжаны ўзровень межавых гандлёвых надбавак да адпускных цэн прадпрыемстваў-вытворцаў і імпарцёраў на шэраг харчовых тавараў. Гэта зроблена ў адпаведнасці з пастановай Міністэрства эканомікі ад 17 снежня N-245.

Як паведамілі БелаПАН у Мінэканоміцы, гэта зроблена ў мэтах пераднавагодняга зніжэння рознічных цэн на харчовыя тавары і павелічэння аб'ёмаў продажу ў гандлёвых арганізацыях.

У пералік тавараў, на якія зніжаны гандлёвыя надбаўкі, уключаны: мука, крупы, макаронныя вырабы; мяса птушкі, паўфабрыкаты і субпрадукты з яго, яйкі беларускай вытворчасці; рыба (акрамя дэлікатэснай), селядзец; алей; маргарын, маянэз беларускай вытворчасці; кандытарскія тавары беларускай вытворчасці; мінеральная вада, сокі, напоі безалкагольныя беларускай вытворчасці; алкагольная прадукцыя, піва беларускай вытворчасці; кава і гарбата.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

*Заўтра каталікі Беларусі адзначаюць адно з галоўных святаў — Нараджэнне Хрыстова. У гэты дзень ва ўсіх касцёлах нашай краіны пройдуць святочныя набажэнствы. Гэта час аб'яднаць свае душы і ўзнесці свае малітвы да Бога за нашую чалавечую годнасць, за нашую Бацькаўшчыну.*

## Снег не ідзе. Затое цэны абвальваюцца

На 1,8 працэнта выраслі ў Беларусі спажывецкія цэны за першыя два тыдні снежня, паведамілі БелаПАН у Міністэрстве статыстыкі і аналізу.

Гэта азначае амаль двухразовае паскарэнне тэмпаў росту цэн: за ўвесь лістапад цэны павялічыліся на 1,9 працэнта, і такі ж паказчык быў зафіксаваны ў кастрычніку.

З пачатку года цэны выраслі на 25,1 працэнта пры гадавым прагнозе ўрада і Нацыянальнага банка 18—24 працэнты.

За аналагічны перыяд мінулага года цэны павысіліся на 32,4 працэнта, у тым ліку за першыя два тыдні снежня — на 1,4 працэнта.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Ці атрымаецца забараніць шпаргалкі?

Вучоны савет Беларускага дзяржаўнага універсітэта рэкамендаваў з 2004 года зрабіць больш жорсткім кантроль за правядзеннем экзаменаў у ВНУ.

Як паведаміў БелаПАН начальнік галоўнага ўпраўлення навучальнай і навукова-метадычнай працы БДУ Віктар Самахвал, рэкамендавана, у прыватнасці, адлічваць студэнтаў за спісванне і выкарыстанне шпаргалак падчас экзаменаў. Так, паводле яго слоў, "робяць вядучыя ВНУ свету". Дагэтуль шпаргалкі адбіралі толькі на ўступных экзаменах, а абітурыента, які правініўся, — выдалялі з аўдыторыі.

Разам з тым, паведаміў ён, парадак такога адлічэння пакуль не вызначаны. "Калі студэнт сапраўды нахабна нічога не рабіў цэлы семестр — з дапамогай электронных або іншых сродкаў пісаў курсавыя, дыпломныя работы і прэтэндуе на выдатную адзнаку — гэта няправільна і несправядліва ў дачыненні да тых, хто працуе дзень і ноч", — заявіў Віктар Самахвал. "Меры стрымання могуць быць розныя, але тое, што студэнт падманваў выкладчыка — гэта амаральна. У многіх заходніх універсітэтах за гэта адлічваюць, прычым адлічваюць не столькі за спісванне, колькі за падман", — падкрэсліў ён.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## Струхлела падлога, струхлее і галерэя

Унікальная карцінная галерэя Брагіна церпіць бедства. Пра гэта карэспандэнту БелаПАН паведаміў яе дырэктар Руслан Герасімаў. Галерэя адкрылася ў 1988 годзе. У ёй сабраны творы вядомых беларускіх мастакоў, прысвечаныя чарнобыльскай трагедыі.

У 80-я гады галерэю размясцілі ў пераабсталяваным памяшканні дзіцячага садка. Зараз яно патрабуе капітальнага рамонту, тут не працуе кацельня, правальваецца струхлелая падлога. "Калі тэмпература паветра на вуліцы апускаецца ніжэй за нуль, у залах галерэі яна — не вышэй за плюс 9, што для жывапісных твораў проста фатальна, — гаворыць Руслан Герасімаў. — Для жывапісу вельмі важна падтрымліваць пастаянны тэмпературны рэжым, як мінімум плюс 24, і вільготнасць. Да нас часта прыязджаюць замежныя дэлегацыі. У апошні раз пад нагамі французаў правалілася падлога. На шчасце, абышлося без ахвяр".

Дарэчы, па французскай праграме падтрымкі мастацтва Брагінскую карцінную галерэю абсталявалі неабходнай камп'ютэрнай тэхнікай, паставілі сканер, падарылі відэакамеру, дапамаглі таксама зрабіць рамонт у камп'ютэрным кабінеце.

**Ніна МІХАЙЛАВА.**



**ЗАКУЛИСЬЕ**

## *Владимир ДРАЖИН:* «Если пить, то хорошее красное вино…»

*Во время посещения реконструированного Дворца водного спорта (теперь — спортивно-оздоровительный комплекс "Олимпийский") вице-премьер Беларуси* ***Владимир ДРАЖИН*** *не только проинспектировал новостройку, но и пооткровенничал с корреспондентом "Народной воли".*

**— Лучше вообще-то, чтобы ваша газета меня не вспоминала,** — заупрямился сначала Владимир Нестерович, — **потому что…**

— Нормальная, нормальная газета, — поддержала меня главный тренер сборной Беларуси по художественной гимнастике Ирина ЛЕПАРСКАЯ. — Он хороший корреспондент, клянусь, на себе испытала. Я сначала сама боялась "Народную волю"...

И вице-премьер "растаял". Оказывается, Владимир Дражин и сам со спортом в юношестве был "на дружеской ноге".

*"В школе я очень увлекался баскетболом,* — рассказал он. — *Параллельно занимался футболом и легкой атлетикой. И даже выступал на республиканских соревнованиях по легкой атлетике. Больших спортивных высот, конечно, не достиг, но, скажите, разве можно забыть, как я, пятиклассник из сельской школы, участвовал в открытии минского стадиона "Динамо"? Тогда для меня это было событие!"*

Вспомнил Владимир Нестерович во Дворце водного спорта, естественно, и о своих плавательных достижениях: *"Сам я вырос на реке Оресе, так что с семи лет на воде уже держался".*

Накануне Нового года проблем у вице-премьера хватает вице-премьерских, но сам праздник, по его словам, — это святое. Семейное.

*"В еде я неприверedлив,* — говорит Владимир Дражин. — *Так что "наполнение" новогоднего стола полностью доверяю своей жене. Что касается спиртных напитков, то я их в последнее время практически не употребляю. Это связано с рядом обстоятельств. Лучше, конечно, вообще не пить, но если уж пить, то всем рекомендую хорошее красное вино".*

**Алесь СИВЫЙ.**

**На снимке:** *Владимир Дражин (слева) на выставке "СМИ в Беларуси". Май, 2003 г.*

**Фото ByMedia.net**

**ОТКРЫТЫМ ТЕКСТОМ**

# Три вопроса к Лукашенко

***В Палате представителей такого еще не было. С появлением в Овальном зале А.Лукашенко отключили все персональные депутатские микрофоны. Представителей белорусской независимой прессы и близко не подпустили. Казалось, что назначение Сергея Сидорского на должность премьера пройдет в полной тишине.***

Так оно, по сути, и вышло. За исключением того, что член депутатской группы "Республика" Владимир Парфенович задал господину Сидорскому два весьма неудобных вопроса. Первый — о его предыдущей деятельности в должности генерального директора НПО "Ротон". Второй — о том, как Сергей Сергеевич решает свои жилищные проблемы.

Сидорский ответил, что никогда не имел нелицеприятных встреч с правоохранительными органами. А квартиру, в которой он ранее проживал в Гомеле, как и полагается, сдал и переехал с семьей в Минск. Все декларации, по словам новоиспеченного премьера, у него в порядке.

Многие депутаты так и не смогли обратиться к А.Лукашенко с волнующими их вопросами и выступить во время обсуждения кандидатуры премьер-министра. Их рабочие микрофоны были отключены до конца голосования.

Поэтому я, член депутатской группы "Республика", обращаюсь к Александру Григорьевичу со страниц газеты.

**Три вопроса:**

*1.Почему на сессию Парламента не были допущены журналисты независимых белорусских СМИ, которые имеют официальную аккредитацию Палаты представителей. Кто принял такое решение?*

***2.На каком основании, говоря Вашими словами, создано "кое-что резервное для того, чтобы иметь информацию о той обстановке, которая складывается внутри и за пределами нашего государства". Регламентируется ли это "кое-что" Конституцией и иными законодательными актами? Или Вы создали вне закона личное КГБ?***

*3.Может ли руководить правительством человек, который не противостоял повышению коммунальных платежей, отмене многих социальных льгот нуждающимся гражданам, введению платных услуг в медицинских госучреждениях?*

**Сергей СКРЕБЕЦ,**
**депутат Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь.**

## Гектар зямлі патрабуе 600 долараў, а не 118 тысяч беларускіх рублёў

З рэзкай крытыкай пазіцыі дзяржаўнай улады ў адносінах да аграпрамысловага комплексу выступілі прадстаўнікі сельскай гаспадаркі на апошнім у 2003 годзе сумесным пасяджэнні прэзідыума Віцебскага аблсавета і дэпутацкага корпуса гэтага ўзроўню. Найбольш істотныя крытычныя заўвагі наконт фарміравання абласнога і рэспубліканскага бюджэтаў наступнага года былі выказаны дэпутацкай камісіяй па пытаннях АПК і экалогіі. Сябры камісіі адкрыта абураліся тым, як мала бюджэтных выдаткаў (4,1%) прадугледжваецца накіраваць на падтрымку сельгасвытворцаў.

— Калі дзяржава хоча захаваць уласную харчовую бяспеку, — заявіў дэпутат з Сенненскага раёна Міхаіл Каўрыжанка, — трэба павялічваць падтрымку вёскі.

У доказ былі прыведзены красамоўныя лічбы: у апошнія чатыры гады ў свеце на гектар сельгасугоддзяў прыпадае 600 долараў дзяржаўных датацый, а ў Беларусі — 118 тысяч рублёў! На рэспубліканскі фонд падтрымкі сельгасвытворцаў у праекце бюджэту-2004 фармальна плануецца павялічыць выдаткі ўдвая, але на справе аграрны сектар не атрымае амаль нічога, бо найбольшая доля гэтых сродкаў пойдзе на пагашэнне крэдытаў, узятых раней для закупу тэхнікі, паліва, на зарплату і пакрыццё бюджэтных пазыкаў. А вось на развіццё вытворчасці застанецца толькі 48%.

Традыцыйная дзяржаўная дапамога пакрысе кожнай гаспадарцы без уліку іх канкрэтнай аддачы прывядзе, на думку дэпутатаў-аграрыяў, да знішчэння самых моцных, перадавых сельгаспрадпрыемстваў.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

**КРЫМІНАЛ**

## Затрыманы тыя, хто нападаў на рэктара БДУ

***Васіль Стражаў ужо апазнаў аднаго з іх***

Як паведамляла "Народная воля", вечарам 17 снежня двое незнаёмых маладых людзей напалі на рэктара БДУ.

Стражаў вяртаўся дадому, размаўляў па мабільным тэлефоне. Калі да пад'езда заставалася 50 метраў, да яго падышоў малады чалавек і папрасіў закурыць. У гэты момант Васіль Іванавіч адчуў моцны ўдар ззаду.

Рэктара БДУ збівалі нагамі. Ён атрымаў чэрапна-мазгавую траўму, пералом пальца рукі, шматлікія ўдары. Стражаву прыйшлося звярнуцца па медыцынскую дапамогу, яму выдалі бальнічны ліст. Яшчэ і сёння кабінет рэктара БДУ застаецца пустым. Толькі ўчора Васіль Іванавіч на некалькі гадзін выйшаў на працу — ён прыняў удзел у пасяджэнні таварыства "Веды", старшынёй якога з'яўляецца.

Напярэдадні Стражаў быў запрошаны ў Гарадскі аддзел унутраных спраў. На апазнанне. Супрацоўнікі міліцыі па фотаробаце, які быў складзены адразу пасля нападу, знайшлі мужчыну, які падазраецца ва ўчыненні гэтага злачынства. Рэктар БДУ пацвердзіў, што гэта быў адзін з тых, хто спыніў яго вечарам 17 снежня.

Учора быў затрыманы яшчэ адзін падазроны.

*"Пакуль ідзе следства, затрыманых нельга назваць злачынцамі,* — каменціруе **Алег Слепчанка**, начальнік аддзела інфармацыі і грамадскіх сувязяў Мінгарвыканкама. — *Гэта павінны вырашыць далейшае следства і суд.* (Па факце нападу ўзбуджана крымінальная справа па частцы 2 артыкула 206 Крымінальнага кодэксу (рабаванне). — **Аўт.**). *Затрыманыя — маладыя людзі, 1970 і 1982 гадоў нараджэння, неаднаразова судзімыя. Зараз яны знаходзяцца ў ізалятары Галоўнага ўпраўлення ўнутраных спраў сталіцы".*

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

